Іскры Ільіча

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ МАЛОДШАГА ЎЗРОСТУ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ ЛІПЕНЬ 1934 № 7

# ДАЗОРНЫЯ ВЫСОКАГА ЎРАДЖАЮ



Таварыш Сталін сказаў: трэба дабіцца, каб усе калгасы сталі большэвіцкімі, а калгаснікі — заможнымі. Уся совецкая краіна горача адгукнулася на заклік свайго правадыра.

Калгасныя піонеры і ўсе дзеці таксама актыўна змагаюцца за большэвіцкія калгасы, за заможнае жыццё. Яны арганізуюць свае дазоры, вартуюць калгаснае дабро ад класавых ворагаў—кулакоў і зладзеяў, збіраюць каласкі. Яны—шэфы калгаснага маладняка, даглядаюць цялят, жарабят, парасят...

З кожным днём растуць усё новыя і новыя юныя дазорцы калгасных палёў. Злодзею-ворагу ад іх не ўцячы!

У гэтым месяцы 200 лепшых піонераў Совецкага Саюза едзе ў Артэк—усесаюзны піонерскі лагер. Сярод іх—многа калгасных піонераў, якія геройскі ахоўвалі калгасную маёмасць.

З Беларусі едуць такія піонеры, як **Бабоўка Міхась, Арцюшэўскі Мікола, Андрэеў Міхась** і іншыя. Бабоўка Міхась арганізаваў у мінулым годзе пост па ахове ўраджаю, злавіў двух зладзеяў, сабраў з атрадам 300 кілаграмаў каласкоў. Сёлета ў маі месяцы выкрыў зладзеяў калгаснага хлеба.

Андрэеў Міхась злавіў трох кулацкіх „стрыгуноў“ калгаснага збожжа.

З гэтых піонераў трэба браць прыклад усім калгасным дзецям.

Будзем пільна стаяць на варце калгаснага дабра! Ніводнага каласка не пакінем на полі!



# Шчаслівай дарогі!



Апавяданне В. Каваля
Малюнкі А. Волкава

На гарадок наступала лета.

Такога лета не забудзе наш атрад. Пра здарэнні, якія адбыліся гэтым летам, будуць часта ўспамінаць пры кастры і ў школе.

Гэта было яркае, сонечнае лета.

Тады ў гарадку цвілі сады, шумелі яблыні, вішні, грушы. Зялёны лес за ракою гаманіў. Клікала лета далёка ў поле. І тады-ж адбылося першае незвычайнае здарэнне ў нашым атрадзе.

Героямі былі не Дзімка і ні хто іншы, а Міша і Тоня Шчурава. Лепшых ударнікаў вучобы пасылаў атрад на бераг Чорнага мора, у Крым, у піонерскі лагер „Артэк“.

Увесь атрад урачыста праводзіў іх на прыстань. На вуліцы звінела песня, мільгалі зялёныя і чырвоныя майкі і, як макі ў палісадніках, цвілі гальштукі. Міша і Тоня ішлі ўперадзе атрада, пабач з важатым Лёнькай Голубам. Міша, горда закінуўшы круглую стрыжаную галаву, жмурыўся і бліскаў вачыма, а Тоня саромліва і радасна ўсміхалася.

Не дзіва, што ўсе ім зайздросцілі. Яны-ж паедуць можа за тысячы кілометраў. Убачаць Чорнае мора і многа новых гарадоў. І можа больш за ўсіх зайздросціў ім Дзімка — гэты чарнамазы, бойкі, задзірысты хлапчук.

Але Дзімка ніводным словам не выказаў свайго нездавальнення. Ён толькі ўвесь час гаварыў:

— Едуць! Няхай едуць! Я — не шкадую.. Падумаеш—ударнікі! Падумаеш — героі! Рабінзоны!..

На прыстані іх пасадзілі на параход і на развітанне доўга махалі рукамі.

— Шчаслівай дарогі!

— Шчаслівай дарогі, Міша і Тоня!.. Перадайце там усім рэбятам прывітанне!

— Раскажыце пра нашу школу...

— Не падкачайце там, рэбяты! Працуйце па-ударнаму!..

Міша не мог захаваць сваёй гордасці і на развітанне сказаў, устрахнуўшы галавою:

— Не падкачаем, рэбяты... чэснае піонерскае... Будзем першымі...

Тоня зачырванелася, замяшалася і, замоpгаўшы густымі чорнымі раснічкамі, сказала да адных дзяўчат:

— Рэбяты, я абяцаю, я прывязу вам нештачка... Крымскія падарункі і фото-карткі. Бывайце!..

Дзімка і тут не вытрымаў і крыкнуў у адказ з берага:

— Эх ты, Тоня-хвастоня, і сказаць перад ад'ездам нічога не ўмееш!

Параход адыйшоў — і яны паехалі. О, як далёка яны паехалі!

Дзімка стаяў на беразе з апушчанай галавой. І тады ўсе рэбяты зразумелі, што ён больш за ўсіх зайздросціць ім.

„Як слаўна было-б, каб і я паехаў", — думаў ён.



★

А ўсяго праз нейкіх 15 дзён, калі наш атрад збіраўся ў свой лагер, Міша і Тоня прыслалі фотоздымак і ліст. Ды які ліст! А на здымку было бушуючае мора і пасярод яго скала...

— Ад ліста пахне морам, — у захапленні сказала Валя і голасна прачытала яго.

У лісце яны падрабязна пісалі аб тым, як яны ехалі, многа ехалі. Дзень і ноч ехалі праз гарады і рэкі, праз стэпы Украіны...

А ў самым „Артэку" настолькі весела і прыгожа, што яны пакуль што і апісаць не могуць. Там піонеры з усіх канцоў СССР; ды што... ёсць замежныя піонеры—кітайскія, амерыканскія, італьянскія, германскія... Адкуль толькі няма!

Яны правялі першы касцёр. Вы яшчэ, мусіць, не ведаеце, што такое касцёр у „Артэку"? Спачатку навокал кастра спявалі песеньку пра „Артэк", а пасля доктар расказваў, як трэба адпачываць. За гэтыя дні яны загарэлі, сталі як „негры".

Яны ўбачылі многа новага—адкрытае бясконцае мора, сапраўдных матросаў—чорнаморцаў. Велізарныя караблі і гарады ў сотню раз большыя і прыгажэйшыя, чымся іхны гарадок. Мора ў ціхую пагоду блакітнае, а вось у буру—страшнае і сапраўды чорнае, чорнае....

Пра ўсё, усё яны раскажуць, калі вернуцца назад. У іх для атрада ёсць падарунак, але пра яго пакуль што ні-ні...

Адным словам, піонерскі салют і шчырае, гарачае, як крымскае сонца, прывітанне ўсяму атраду і кожнаму паасобку з далёкага Крыма, цудоўнага „Артэка", з цёплай краіны, дзе вечна плешча мора...

Ліст нават канчаўся вершам, які напісаў,

канешне, ні хто іншы як Міша — рэдактар атраднай газеты „Заўсёды гатоў“:

„Артэк—дзіўная краіна.
Многа дружных тут рэбят,
Пасылае сонца й мора
Прывітанне ў наш атрад“.

★

Усе былі ў захапленні ад ліста, адзін Дзіміка не быў у захапленні.

— Маняць! — упэўнена сказаў Дзімка.— Чэснае слова, маняць... Можа там не так і прыгожа, як яны пішуць... А ў падарунак— што яны прывязуць? Назбіраюць якіх-небудзь каменчыкаў і ўсё...

— Ты, Дзіма, усё насупроць, — засупярэчыла Валя.—Чаму ты такі задзіра?

— Сама ты задзіра... Падумаеш,—зневажліва сказаў Дзімка,—яны паехалі ў „Артэк“! А я паеду ў Арктыку...

— Дзімка, вазьмі і мяне з сабой,—папрасіў маленькі, светлагаловы Юрка.

— Не,—строга адказаў Дзімка,—цябе я не магу ўзяць. Ты яшчэ дужа малы ростам. Я паеду са Шмідтам і з капітанам Варонінам. І я буду памочнікам капітана, ці чэлюскінцам...

— Дзімка,—зноў папрасіў Юрка, — прывязі мне адтуль маленькага кіта...

— Прывязу, — паабяцаў Дзімка, а падумаўшы дадаў: — Я лепш прывязу белага медзвядзёнка... Для ўсяго атрада...

— Ой, што надумаў!—зацікавіліся рэбяты, а важатая звяна Валя ўпікнула:

— Не хваліся, Дзіма! Як-жа ты паедзеш, калі геаграфіі не ведаеш? Помніш, як ты раз на ўроку заехаў замест Паўночнага полюса на паўднёвы...

Дзімка пачырванеў. Яму стала нязручна. Але ён убачыў, што думка пра далёкую Арктыку ўсіх захапіла. Таму ён з гордым выглядам прагаварыў:

— То было ўзімку, калі я не ведаў геаграфіі, а вясною я здаў яе на „здавальняюча“. Свісні, а мяне ў вучобе не пераганіш! Я ўсюды буду першым... Паеду і ў „Артэк“, паеду і ў Арктыку, чэснае піонерскае...



# То не шум баравы

**ЯНКА КУПАЛА**

То не шум барары
Шуміць весткай добрай,
То не кліч баявы
Арміі харобрай —
Гэта гоман ідзе
Па свеце вялікім,
Нечуваны нідзе,
Ад полюсаў дзікіх.

То не шум баравы
Патрасае светам,
То не гром векавы
Грымнуў гэтым летам,
А легендай сусвет
Ганарыць належна
Нашых лётчыкаў цвет
На ўвесь свет бязмежны.

То не шум баравы
Шмідта ўвекапомніў,—
Магілеў наш сівы
Земляка ўспомніў
І падумаў сабе:
Добра ў часе гэткім
Шмідта меиць у сяўбе
На нашых палетках.

То не шум баравы
Хвалюе прыволле,
Дум напеў векавы
Аб вялікай волі,—
Гэта едуць да нас
Саюза героі
Ва усёй велічы крас,
У палярнай зброі.

То не шум баравы
Шуміць небывала
Ад марэй да Масквы
Нячуванай хвалай,—
Гэта едзе экспрэс
З чэлюскінскай славай,—
Яму сонца і лес
І людзі б'юць брава.

То не шум баравы
Калыша прасторам
І не зоў баявы
Заклікае к зорам,—
Гэта наша жыццё
Пяе гімн шчаслівы
Пра ўсё наша быццё
Нашых родных ніваў.



# Ільдзіна-халадзіна

Апавяданне Л. Кассіля
Малюнкі А. Зубова

Калі бацька ад'язджаў, Іга ледзь-ледзь даставаў галавой да Ледавітага акіяна на карце. А Люда і рукой-бы не дастала... Яна магла дастаць толькі да Чорнага мора. Але Чорнага мора не было на карце. Гэта была карта халодных мораў. Яна вісела нізка, ля дзвярэй, і бацька перад ад'ездам падышоў да карты. Бацька падняў Люду на рукі, паднёс яе да карты і пальцам павёў па морах і акіянах.

— Вось як мы паплывем,—сказаў бацька і пацалаваў Люду.

Потым ён моцна абняў Ігу і ўзяў чамадан. Людзе стала шкада выпраўляць бацьку.

— Тата, — сказала яна,—там будуць ільды і ільды ўсё... Прывязі мне, тата, маленькі кавалачак Паўночнага полюса, такую вось ільдзінку.

— Ну, на самым полюсе мы не будзем... Мы міма пройдзем. Але палярную ільдзінку я табе канешне прывязу.

— І каб са следам белага мядзведзя была,— дадаў Іга.

— Са следам мядзведзя, — паправіла Люда.

І бацька паехаў. Ён быў выдатным падарожнікам. Ён пабываў на ўсіх Паўночных морах і землях. Ён плаваў на ледаколах, лётаў на цэпеліне, жыў доўгія зімы на замёрзлых астравах. Але ён і там заўсёды быў вясёлы. Ён дружыў з усім светам, бо быў выдатным радыстам і размаўляў па радыё з усімі краінамі. На гэты раз бацька адправіўся ў лядовы паход на вялікім параходзе „Чэлюскін". Параход павёў самы лепшы Паўночны капітан — Варонін. А камандаваў паходам галоўны начальнік Вялікай Морскай Паўночнай дарогі—вучоны прафесар Шмідт. Іга і Люда добра ведалі Шмідта. У яго была вялікая барада і смелыя вочы.



*Вось так мы паплывем...*

„Чэлюскін" плыў усё далей і далей з мора ў мора. І ў газетах кожны дзень друкавалі тэлеграмы бацькі Ігі і Люды. Калі Іга адыходзіў раніцай у школу, ён кожны раз пытаўся ў маткі: „Дзе тата?"—„У Белым моры", — адказвала маці і чытала ўслух газету. А іншы раз бацька прысылаў па радыё прывітанне Ігу і Людзе.

„Плывем добра, — перадаваў ён па радыё з далёкага парахода,— усе вясёлыя. Як вучыцца Іга? Сёння злавілі цюленя на лёдзе. Ці ходзіць у дзіцячы сад Люда? А пазаўчора

ў Карскім моры ў адной нашай пасажыркі радзілася дзяўчынка. Яе назвалі Карынай, яна вам кланяецца. Слухайце маму і не сумуйце".

Мінула некалькі месяцаў. Параходу асталося ўжо зусім блізка плыць да Вялікага акіяна. Але дарогу ў акіян загарадзілі вялізарныя цяжкія ільды. Вецер прыгнаў цэлыя лёдавыя горы, лёдавыя палі. Ільдзіны ўперліся ў параход і спынілі яго. „Чэлюскін" стаў пракладаць сабе дарогу. Але тоўстыя крыгі лёду моцна трымалі яго.



*... перадаваў ён з парахода.*

* * *

Аднаго разу раніцай мама ўзяла газету і стала раптам сама строгай і белай, як Паўночны полюс. І Іга пачуў як штосьці тук!—стукнула аб газету. Гэта ўпала на паперу цяжкая маміна сляза.

— Параход загінуў,—сказала мама,—ільдзіны раздавілі параход, „Чэлюскін" затануў..

— А як-жа тата?

— Усе людзі паспелі вылезці на ільдзіну. Толькі адзін затануў, астатнія—на ільдзіне.

— А як-жа яны там будуць?

І Іга паглядзеў на карту. І мама. І Люда. Усе паглядзелі на карту... Сiняватай фарбай было намалявана там халоднае Палярнае мора.

— А як-жа яны там будуць?

* * *

Але бацька, вясёлы радыст, не сумаваў. Ён сядзеў у маленькай паходнай палатцы, хукаў на азябшыя пальцы і націскаў імі на ключ свайго апарата. На ўвесь свет разносілася яго: Ці-ці-ці-ці, тр-тр-тр... І ўсе людзі ў СССР і маленькая Люда, і сам таварыш Сталін з захапленнем слухалі, чыталі, чакалі, што перадасць радыст з ільдзіны.

— Усё ў парадку, вярнуся ў чэрвені,—упэўнена перадаваў вясёлы радыст,—тр-тр-тр, ці-тр-тр, ці-ці-ці... Вярнуся ў чэрвені.

І скора ён сам пачуў і перадаў прафесару Шмідту і другім сваім таварышам, што ўся Совецкая краіна паднялася ім на дапамогу. Ішлі на дапамогу параходы і ледаколы. Ляцелі самалёты і дырыжаблі. Імчаліся сабачыя нарты і аэрасані.

100 чалавек жыло на ільдзіне Палярнага мора. На ільдзіне вырас малюсенькі гарадок. Ён называўся „Лагер Шмідта". Над лёдавымі горамі, над белай лёдавай пустыняй узняўся вялікі чырвоны сцяг. Суседнія ільдзіны з грукатам наступалі на лагер. Ільдзіна трашчала і ламалася...

Цяпер кожную раніцу Іга перш за ўсё хапаў газету. Раней ён перад тым, як ісці ў школу, падбягаў да акана і глядзеў на градуснік.

— Шаснаццаць градусаў марозу,—крычаў ён,—я сёння на каток пайду, лёд харошы!

А цяпер ён глядзеў у газету і перапалоханым голасам гаварыў: „Сорак градусаў марозу... Ільдзіна зноў трэснула"...

Мама стала худзець. Яна не спала ўночы і ўсё думала аб ільдзіне. Яна глядзела на карту і ўздыхала. Іга таксама хадзіў сумным. І нават Люда стала капрызнічаць. Толькі бацька, вясёлы радыст, не сумаваў на ільдзіне. Ён прысылаў па радыё спакойныя і смешныя тэлеграмы: „Як ідзе вучоба ў Ігі? Ці кожны дзень чысціць зубы Люда? Я тут чышчу кожны дзень. Учора забілі белага мядзведзя. Палярную ільдзінку прывязу абавязкова".

Мама адказвала: „Ешце мядзведзя на здароўе. Іга прэміраваны ўдарнік. Вучыцца на „вельмі".

* * *

Потым настаў першы радасны дзень. Малады лётчык Ляпідзеўскі прыляцеў на самалёце ў лёдавы лагер Шмідта. Чэлюскінцы ўжо даўно працавалі і дні і ночы. Яны расчышчалі месца на лёдзе і падрыхтавалі пляцоўку—аэрадром.

Лётчык Ляпідзеўскі пасадзіў ў свой самалёт жанчын-чэлюскінак і двух дзяцей—чэлюскінят: Алачку і маленькую Карыну, якая ра-

дзілася ў моры і яшчэ ніколі не была на зямлі. У гэты дзень дзеці на двары прыдумалі і спявалі такую песеньку:

ЭХ, ТЫ, ЛЬДЗІНА-ХАЛАДЗІНА
НА ХАДЗІ НА АКІЯН,
НЕ ХАДЗІ НА АКІЯН,
БО ЎСЕРОЎНА І НА ЛЁД
ДАЛЯЦІЦЬ НАШ САМАЛЁТ.

І ў той-жа дзень на двары пачалася вялікая цікавая гульня ў чэлюскінцаў. Гульню гэтую прыдумалі Іга і яго таварыш Петрык Пятух. Ён быў сынам сапраўднага лётчыка. На вялікай кучы лёду і снегу пасярод двара зрабілі з шчэпачак і палачак лагер Шмідта. Спачатку ратавалі самых слабых. Так рабілі заўсёды чэлюскінцы.

— Жанчын з дзецьмі заўсёды ратуюць першымі,—сказаў тоўстым капітанскім голасам Іга. Ён быў адразу і радыстам і прафесарам Шмідтам. — Рэбяты і маткі, можаце ратавацца,—паўтарыў ён, і Люда з лялькай разам з другімі сяброўкамі пасталі ў чаргу за спіной Петуха, каторы быў лётчыкам. Ён ездзіў на адным каньку. Пятух надзьмуўся, нахмурыўся, зафыркаў і ўзмахнуў рукамі.

— Я вас давязу да сухога месца—Ванкарэма,—сказаў Пятух.

Сухое месца было на ганку. І праз некалькі хвілін Пятух спакойна знізіўся туды са сваімі пасажыркамі.

Але сярдзіты дворнік Харытон прыйшоў, узмахнуў мятлой і разбушаваўся, як мяцеліца.

— Я вас, — закрычаў ён,—зараз-жа злазце з кучы, гэта што за гульня, снег толькі раскідаеце!

У Харытона была вялікая барада, але на прафесара Шмідта ён ні капелькі не быў падобны... Рэбяты неахвотна злазілі з снегавой



*Мама стала раптам строгай і белай, як Паўночны полюс.*

кучы. Але ў гэты час вярнуўся з работы сусед Хведар Рыгорыч. Ён жыў у адной кватэры з Ігам і Людай. Хведара Рыгорыча ўсе рэбяты вельмі любілі і лічылі вялікім майстрам па палярных справах, бо ён любіў летам халадок у цяньку, піў ледзяны квас і частаваў дзяцей марожаным. Хведар Рыгорыч заступіўся за рэбят.

— Чаго ты ім гуляць не даеш? Снегу табе шкада?

— Беспарадак!—закрычаў Харытон.

Хведар Рыгорыч падышоў да рэбят і сказаў ім. „Нічога, рэбяткі. Ён у нас, як буран; наляціць, замяце, зашуміць, а потым уляжацца спаць. А я, рэбяткі, буду вашым „бюро пагоды". Буду вам паведамляць, калі можна гуляць, калі не. З майго акна відаць, калі ён ідзе".

І з таго дня пайшло так: Хведар Рыгорыч выходзіў на ганак і казаў:

— Пагода дрэнная, ідзе пурга і ўсё мяце. Ляцець нельга.

І рэбяты ўжо ведалі, што ідзе сярдзіты Харытон, трэба ўцякаць... Але часта Хведар Рыгорыч казаў падміргваючы: „Неба чыстае. Можна ляцець". І тады рэбяты гулялі.

Дворнік Харытон сварыўся і неяк у адзін дзень вывез увесь снег з сярэдзіны двара. Толькі за хлявом, у закутку двара, асталася невялікая ледзяная горка. Але і яна скора пачала раставаць. Лужыны пацяклі ва ўсе бакі. Ізноў не было дзе гуляць дзецям. Але Хведар Рыгорыч суцяшаў іх.

— Нічога,—сказаў ён,— пакуль я загадваю вашай пагодай, усё будзе ў парадку. Я не чараўнік які-небудзь, але вось уба-

чыце, заўтра ўсё ў вас зноў замерзне.

І сапраўды раніцай усе лужыны замерзлі, ільдзіна болей не раставала. А было ўжо цёпла, снег усюды даўно растаў. Вясна нагрэла тратуары, асфальт высах, і Пятух ратаваў цяпер чэлюскінцаў на двухкалёсным самакаце—дошчачцы.

А вялікая лужына за хлявом усё замярзала кожную раніцу. І ледзяная гара раставала вельмі марудна... Ніхто не ведаў, што тут за прычына. Харытон нават паклікаў міліцыянера. Міліцыянер прыйшоў і сказаў, што ніякага беспарадка тут ён не знаходзіць, лёд нармальны, аднак лепш усё-такі яго вывезці... Харытон ломам раскалоў лёд на дробныя кавалкі. Але раніцай ільдзінкі зноў змерзліся ўсе разам і зноў зрабілася гара. Харытон зусім збіўся спанталыку, а потым махнуў рукою: „Нічога не зробіш. Відаць, клімат за хлявом такі“. І ён паставіў студзіць у вечны лёд бутэльку з квасам.

Рэбяты, як і раней, кожны дзень гулялі ў чэлюскінцаў, і мама кожны дзень спалоханымі вачыма ўпівалася ў газету.

Іга і Люда сумавалі без бацькі. Але выратаваць чэлюскінцаў было вельмі цяжка. Хадзячыя ільдзіны ламалі лагер. Марозы і мяцеліцы затрымлівалі самалёты, не прапускалі ў лагер. Маторы задыхаліся, як людзі на страшным марозе і не маглі вярцецца. Людзі мерзлі. Але гэта былі савецкія людзі, вельмі ўпартыя і смелыя людзі. Яны парашылі выратаваць чэлюскінцаў што-б там ні было. Лётчыкі ірваліся ўверх, не зважаючы на вецер і холад. Увесь свет глядзеў на Поўнач. Ільды насядалі на лагер. Ільды разбуралі палаткі. Цяжка захварэў прафесар Шмідт. Ён нікому не казаў аб сваёй хваробе. Ён не хацеў здавацца. Але радыст паведаміў аб гэтым усяму свету.

* * *

І вось нарэшце савецкія лётчыкі прарваліся скрозь мароз і мяцеліцу, і вясёлы радыст пажартаваў на ўвесь свет, што „адкрыўся паветраны пасажырскі шлях між лагерам Шмідта і Ванкарэмам“. Смелыя лётчыкі пакідалі цвёрдую зямлю і спускаліся на брадзячую ільдзіну. Ільдзіна гатова была вось-вось зламацца і трэснуць. Але лётчыкі ўпарта ваявалі з небяспекай, — перавозілі чэлюскінцаў на цвёрдую сухую зямлю. Вясёлы радыст ледзве паспяваў перадаваць па радыё: „Выратавана 22 чалавекі“... Потым 36. Потым 57. Хворага прафесара Шмідта ледзве не сілай забралі: ён хацеў пакінуць лагер самым апошнім. Але апошнімі засталіся на ільдзіне 6 чалавек. І, канешне, вясёлы радыст астаўся да канца. Было позна і цёмна. Лётчыкі абяцалі прыляцець заўтра раніцай і ўзяць усіх. Лётчыкі паляцелі. Шэсць чалавек і 8 сабак асталіся ў апусцеўшым лагеры...

На другі дзень мама раненька пайшла некуды даведацца пра бацьку. Іга вярнуўся са школы і пайшоў з Людай гуляць на сваю ільдзіну, за хлеў. Прыйшоў Петрык-Пятух і другія рэбяты. Але гульня нешта не ладзілася. Паспрабавалі паляваць на белых мядзведзяў, але выйшла маці Петуха і сказала, што не дазволіць класці плюшавага мядзведзя на брудны лёд. Злавілі сабачку Штурму і хацелі запрэгчы ў санкі. Але Штурма пакрыўдзілася: „Я не паляр-ррная, я двар-р-ровая“, — забурчала яна і ўкусіла



*— Я вас давязу да сухога месца...*



*Пагода дрэнная, ідзе пурга і ўсё мяце...*

Петуха за палец. Але раптам раскрылася акно ў мамінай комнаце. Мама высунула галаву і весела і звонка закрычала:

— Рэбяты, можаце канчаць гульню, ільдзіна пустая, рэбяты! Астатнія людзі пакінулі яе. І самымі апошнімі ведаеце хто быў? Капітан Варонін і наш бацька — вясёлы радыст. Вось якія людзі жывуць у нашай краіне. Вось якімі трэба быць, рэбяты! Паслухайце бацькаву апошнюю тэлеграму:

„Астатнімі пакідаем ільдзіну. Лагера Шмідта болей няма. Дагарэў апошні касцёр. На пустой ільдзіне астаўся на вышцы толькі совецкі чырвоны сцяг“.

— Мама, а сабакі асталіся там?

— Не, іх забралі.

— Ой, вот ура!

І тут Петрык-Пятух заспяваў песеньку:

ЧЭЛЮСКІНЦЫ-ДАРАГІНЦЫ
ЯК БАЯЎСЯ Я ВЯСНЫ,
ЯК БАЯЎСЯ Я ВЯСНЫ!
І БАЯЎСЯ Я ДАРМА,
ЧЭЛЮСКІНЦЫ-ДАРАГІНЦЫ,
ВАС НА ЛЁДЗЕ ЎЖО НЯМА!

А раніцай на другі дзень ільдзіна на дварэ растала і лужыны не замерзлі.

* * *

У чэрвені, як абяцаў, вясёлы радыст вярнуўся ў Маскву.

Ён прыехаў з усімі чэлюскінцамі і лётчыкамі-героямі Совецкага Саюза. Уся Масква сустракала героя. Ён прывёз у шкляной пасудзіне палярную ільдзіну. Гэта быў кавалак ільдзіны, на якой чэлюскінцы прасядзелі два з палавінай месяцы. У ільдзінку ўмёрз вялікі кіпцюр — след лапы забітага белага мядзведзя. Бацька вельмі шанаваў ільдзінку. Ён вёз яе на самалёце, на сабаках, на параходзе, у поездзе. Усюды ён трымаў шкляную банку ў лёдзе, каб падарунак не растаў. І ён давёз ільдзінку цэлай да Масквы ў асобным вагоне-халадзільніку.

Шчаслівы, вясёлы прыехаў бацька з вакзала дахаты. Люда і Іга шчабяталі і скакалі навокала яго. Раптам бацька схапіўся за галаву:

— Стойце, таварышы,—сказаў ён,—а банка дзе?

Банка стаяла на падлозе разам з чамаданам. Радыст зусім забыўся пра яе. Гарачае чэрвеньскае сонейка нагрэла банку, і там на самым дне ў бруднай вадзіцы плаваў вялікі чорны кіпцюр. Вось табе і кавалачак Паўночнага полюса!

— Растала,—сказаў бацька. — Эх, як-жа гэта я!

— Ну, нічога, — далікатна сказаў Іга. — Кіпцюр усё-такі не растаў.

Люда надзьмулася і ледзь не заплакала.

— Адну хвілінку,—пачуўся голас Хведара Рыгорыча.—Дайце мне банку... Я зараз.

І ён, схваціўшы банку, пабег у сваю комнату. Ён зараз-жа вярнуўся і паставіў на стол запацеўшую банку. Усе ахнулі: у банцы ляжала палярная ільдзінка. У ільдзінку ўмёрз кіпцюр мядзведзя.

— Слухайце,—сказаў радыст, — дзіваў на свеце не бывае, але як вы гэта зрабілі?

— Вельмі проста,—адказаў Хведар Рыгорыч.—Я халодных спраў майстар. Я працую на халадзільным заводзе. Там робяць штучны сухі лёд. У ім 30 градусаў марозу. Такі лёд можна насіць у кішэні. Ён растае, але не цячэ, а ператвараецца проста ў пару. Калі кінуць кавалачак лёду ў ваду, вада зараз-жа замерзне. Гэта-ж я замарожваў лужыны на дварэ.

І тут усе захлопалі ў далоні. Потым бацька паглядзеў раптам на Ігу.

— Ну, Іга, стань ля карты,—сказаў ён.

Іга даставаў цяпер галавой да самага Паўночнага полюса.



# Чэлюскінка Алла

Верш М. Багуна
Малюнкі А. Шахрая

Як з лёдам
біўся карабель
і мора бушавала,
напэўна,
холадна табе
было
і страшна, Алла?

У мітусні
штодзённых спраў
пад нашым
вольным сцягам
на мёрзлай крызе
качаваў
спакойны шмідтаў
лагер.

Вятры
выходзілі ў набег
і шквал
імчаў за шквалам.
Я знаю —
холадна табе
было
і страшна, Алла.



Вам вестку
радыё нясло,
ў газетах мы
чыталі
скупую жменьку
мужных слоў
і слаўны подпіс
—Сталін.

Спакой
у гэтых словах быў.

Яны
і ўся іх веліч,
як голас
баявой трубы,
над светам
прагрымелі.

І вось
сыны сваёй зямлі—
адважныя пілоты—
паклалі рукі
на рулі,
кранулі самалёты.

... Шуміць
сібірская тайга
у снезе
і ў тумане.
Пачэсны
выканаць загад
вядзе звяно Каманін.

Вятры
гудуць над галавой
і градам
б'юць у скроні.
На поўнач
курс трымае свой
другі пілот—Даронін.

Іх не застрашыць
снежны вір,
віхуры белай хмара:
пілоты—
нашае крыві,
машыны
— нашых марак.

Цяжкі
закончаны палёт,
шляхоў ліхі кавалак...
І Ляпідзеўскі
ў самалёт
прымае першай
Аллу...
. . . . . . . . .

Сыны краіны,
слава вам,
не знаўшым страху,
зморы!

І слава тым,
хто будаваў
совецкія маторы!



# Р Э Д З І

Апавяданне В. Чаплінай

Рэдзі быў пагранічным сабакам. Аднаго разу граніцу перайшлі тры чалавекі, якіх трэба было канешне злавіць. Выклікалі Рэдзі з праваднікам. Рэдзі скоранька абнюхаў сляды, нацягнуў повад і пайшоў.

Дарогі не было. Праваднік і пагранічнікі ледзьве прабіраліся праз густы лес услед за Рэдзі. Неўзабаве пагранічнікі адсталі. Праваднік таксама аслабеў. Пераскакваючы праз пень, сабака моцна тузануў праваднікa, той не ўтрымаўся і кінуўся вобземлю. Падаючы, ён моцна ўдарыўся грудзьмі аб пень і страціў прытомнасць. Повад выпаў з рук праваднікa. Аднак Рэдзі не спыніўся. Ён адзін пабег, нюхаючы сляды. Але скора сабака стаў—яго затрымаў повад, які зачапіўся за кусты. Рэдзі аказаўся на прывязі. Ён ірваўся, брахаў, раменны-ж повад моцна трымаў яго.

На брэх сабакі прыйшоў пагранічнік. Для Рэдзі ён быў чужым, але ў яго не было паху тых людзей, якіх даганяў Рэдзі. Таму Рэдзі падпусціў пагранічніка да сябе.

Пагранічнік не ведаў нават, як называецца сабака, але быў знаёмы са службаю гэтых сабак.

Сабака бег скоранька і ўпэўнена. Сляды злачынцаў былі свежыя.



Прайшоўшы пятнаццаць кіламетраў, пагранічнік выбіўся з сіл. І вось ён заўважыў наперадзе бандытаў. Іх было трое. Яны здагадаліся, што іх даганяюць і пачалі разбягацца.

Пагранічнік крыкнуў ім спыніцца, але яны не паслухалі. Тады ён пачаў страляць і забіў аднаго. Двое бандытаў уцякло.

На стрэлы падаспеў другі пагранічнік. Зусім знясілены першы пагранічнік перадаў яму сабаку. Яшчэ сем кіламетраў бег Рэдзі з новым праваднікам. Нарэшце каля чыгункі яны дагналі і астатніх двух. Пагранічнік, абстраляўшы іх, затрымаў аднаго. Другі схаваўся ў лесе.

Затрыманага пагранічнік павёў у заставу, здаў яго там, а сам з дапамогаю Рэдзі вярнуўся к чыгунцы.

Рэдзі скора адшукаў след, але ісці па ім не змог. Каля яго змянілася тры чалавекі; ён прабіраўся праз гушчары, правальваўся ў дрыгву, але ўсё-такі ішоў. Нішто не магло спыніць Рэдзі, аднак цяпер ён зусім аслабеў і, паказаўшы напрамак, куды пабег бандыт, Рэдзі лёг. Далей пайшлі адны пагранічнікі. Яны скора знайшлі трэцяга перабежчыка ў бліжэйшай вёсцы.

# Стукі стукі—стук...

Верш Ёзерскага
Малюнкі Тіхановіча

1.

Стукі-стукі-стукі-стук!..
Хто сячэ у лесе сук?
Напужаў да смерці ён
Варанятак і варон.
— Гэта, мусіць, дрывасек!
Эх, і страшны-ж чалавек!

2.

Стукі-стукі-стукі-стук!..
Хто сячэ у лесе сук?
З-за кусточка зайка скок—



Скокнуў шэры на лужок
Па травіцы, па расе...
— Дзе-ж ён гэты дрывасек?
— Ні душы—куды ні глянь!
Хто-ж такі ў такую рань?

3.

Стукі-стукі-стукі-стук!..
Хто сячэ у лесе сук?



Ўсхапіўся хітры ліс,
Задрыжаў ён, нібы ліст,
Пацягнуўся ва ўвесь рост
І распушыў рыжы хвост:
— Ні душы—куды ні глянь!
Хто-ж такі ў такую рань?





4.

Стукі-стукі-стукі-стук!..
Хто сячэ у лесе сук?
У ваверкі вочкі—круць!
Хоць разочак-бы зірнуць!
Дзе ён? Дзе?—Але дарма:
Нікагусенькі няма.
— Хто-ж такі ў такую рань?
Ні душы—куды ні глянь!

5.

Стукі-стукі-стукі-стук!..
Хто сячэ у лесе сук?
Дзве лягушкі—гоп ды гоп!
З-пад імшарышча ў галоп!



— Ква-ква!—хто ссякае сук?
— Ква-ква!—досыць гэтых штук!
Заглянулі пад лапух—
Разагналі толькі мух.

Ні душы—куды ні глянь!
Хто-ж такі ў такую рань?

6.

Стукі-стукі-стукі-стук!..
Хто сячэ у лесе сук?
І павук пабег на сук,
Муху выпусціўшы з рук...

7.

Бачыць:
птах дзяўбе кару.
Вось хто страшыць у бару!
— Што ты, дзяцель, ачумеў?
Ці тры месяцы не еў?
Стук такі ў такую рань!
Чуеш, дзяцел, перастань!
— Адыйдзі ты, брацe!—
Зноў застукаў дзяцел:
— Нічагусенькі не ведаю—
Я сабе абедаю.
І адстань...

*Пераклад з рускай А. ЗІМІОНКІ.*



# Гісторыя кнігі

Наўрад ці знойдзецца цяпер хата ў вялікім Совецкім Саюзе, каб не было там друкаванага слова—кніжкі або газеты.

А не так даўно, гадоў 500 таму назад, кнігі мелі толькі багацеі. Друкаваных кніг тады не было, а перапісвалі іх адна з другой гусіным пяром перапісчыкі. Многа работы вымагала такая кніга—гадамі пісалі яе, таму і дорага каштавала яна. Кнігі былі толькі царкоўныя і перапісвалі іх царкоўныя служкі—манахі ды папы. Многія з перапісчыкаў былі людзьмі малапісьменнымі і пры перапісванні з аднае кнігі ў другую рабілі шмат памылак.



*Манах-перапісчык.*

Ішлі гады... Чалавек не мог прымірыцца з такімі „тэмпамі“ друкавання кніг—ён пачаў займацца вынаходніцтвам, каб паскорыць гэту справу.

Рабіць розныя пячаткі, ігральныя карты людзі навучыліся даўно. (Пячаткамі карысталіся паны пры адсылцы пісем. Яны запячатвалі пісьмы воскам, а па воску стукалі пячаткай). А вось зрабіць літары, каб друкаваць кнігі,—да гэтага людзі не так скора дадумаліся.

Іоган Гутэнберг (радзіўся ў 1396 г. у Германіі) быў першым на свеце друкаром. Ён навыразаў з драўляных слупкоў літар і, злучыўшы іх у патрэбныя словы, сказы, пачаў друкаваць на зробленым станку першую кнігу.

Першымі друкаванымі кнігамі былі таксама кнігі царкоўныя. Царква тады мела вялікую ўладу над людзьмі і рабіла з імі, што хацела.

У нас пачалі друкаваць кнігі куды пазней, чым у Германіі, толькі праз гадоў 70 (у 1517 г.). Гэта былі таксама царкоўныя кнігі, так званыя біблії.

Цяжкая і марудная была работа першых друкароў: усё рабілася рукамі чалавека. Аднак і супроць такога „механізаванага“ спосабу друкавання кнігі паўставалі перапісчыкі. Яны падпальвалі друкарні, ламалі станкі, рассыпалі літары (шрыфт), бо новая тэхніка адабрала ад перапісчыкаў работу.



*Першыя друкары.*

Надрукаваць кнігу, часопісь, газету цяпер— не такая цяжкая рэч. Стаіць сабе наборшчык каля ка́сы з літарамі і, трымаючы ў руках вярстатку, набірае патрэбныя літары, стаўляе іх у радок. Спрактыкаваны наборшчык можа набраць за гадзіну каля 2 тысяч літар.

Але ёсць і другі спосаб: сядзіць чалавек на крэсле і стукае па патрэбных літарах, як





*Вярстатка.*

на пішучай машынцы, а ў сярэдзіне машынкі літары адліваюцца цэлым радком. Радок можа быць любой велічыні — такі, які патрэбен наборшчыку. Машына гэта называецца **лінотып**. На ёй наборшчык набірае за свой рабочы дзень (7 гадзін) 40 тысяч літар і розных знакаў прыпынку.

Ёсць і яшчэ адна наборная машына— **монотып**. Набор робіцца на ёй, як і на лінотыпе, але сама машына больш складаная. Літары адліваюцца не цэлымі радкамі, а кожная паасобку. Гэта лепей тым, што калі наборшчык зробіць памылку, дык потым не трэба перабіраць увесь радок, а толькі замяніць адну літару другой.



*Монотып.*

Пасля выпраўлення памылак, зробленых пры наборы, матар‘ял перадаецца ў машыннае аддзяленне. Тут ужо друкуюць газету ці кніжку.

Ёсць два найбольш пашыраныя віды



*Ротацыонная машына.*

машын: старая машына — простая і навейшая—ротацыя.

Ратацыонная машына друкуе за гадзіну каля 10 тысяч экземпляраў газеты „Піонер Беларусі“. А на звычайнай так званай плоскай машыне за гэты час можна надрукаваць 750 экземпляраў. Вось якая розніца!

З кожным днём усе больш і лепш удасканальваецца друкарская справа. Яна робіцца больш магутнай, аблягчаючы працу чалавека.

---

# ВЫПІСАЛІ 40 ЭКЗЕМПЛЯРАЎ

**Вучні Машканскай ШКМ, Віцебскага раёна, на летні час выпісалі 40 экз. часопісі „Іскры Ільіча“.**

**Першай па падпісцы ідзе 2-я група, дзе кожны акцябронак і вучань выпісвае і чытае сваю часопісь. Зараз мы праводзім летні адпачынак з сваёй часопісcю**

**А. ВЕЛЮГІН.**

---

# ЗРАБІ САМ

## АЎТАМАБІЛЬ І САМАЛЁТ



Мал. 1.



Мал. 2.

Вазьміце кавалачак цвёрдай паперы (картону) і выражце на ім самалёт, або аўтамабіль (малюнак 1), які называецца трафарэтам.

Цяпер гэты самалёт або аўтамабіль прыкладвайце на паперу, бярыце кістачку, макайце яе ў фарбу і малюйце па выразаным рысунку. Адняўшы картон, вы будзеце мець мал. № 2.

Такім спосабам можна навыразаць розных звяроў, дрэў і хутка намаляваць шмат прыгожых малюнкаў.

## ПТУШКІ І ЗВЯРЫ З ГЛІНЫ

Каб зрабіць птушку ці звера з гліны, трэба ўзяць маленькіх кіёчкаў, паперы розных колераў і гліны.

Кіёчкі ўжываюцца для змацавання частак цела (напрыклад, галавы ці ног з тулавам).





Мал. 3.

Папера патрэбна для пер'я і грэбеня на галаве.

Як рабіць птушак, звяроў і грыбы з гліны, глядзі малюнкі 3 і 4.

Паспрабуйце самі прыдумаць другія ўзоры птушак, звяроў, дрэў.







Мал. 4.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“. Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1047. 4470 экз. Менгарліт № 4407.